ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 62 (1699) | Пятніца, 3 жніўня 1962 года | Цана 4 кап.



VIII FESTIVAALI HELSINKI 1962

## ПЯЦЬ ПЯЛЁСТКАЎ ДРУЖБЫ

Сёмы дзень Сусветны фестываль моладзі праходзіць па вуліцах і плошчах Хельсінкі.

31 ліпеня адбылося ўрачыстае свята фінскай і савецкай моладзі. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. І. Брэжнеў прыслаў тэлеграму, у якой ад усяго сэрца вітаў юнакоў і дзяўчат Фінляндыі і Савецкага Саюза, што сабраліся адзначыць дзень сваёй дружбы.

Прадстаўнікі фінскай і савецкай моладзі наведалі прэзідэнта Фінляндыі Урха Кеканена. На ўрачыстым канцэрце прысутнічалі Урха Кеканен і старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па культурных сувязях з зарубежнымі краінамі С. К. Раманоўскі.

У цэнтры горада, у парку Кайсаніемі прэм'ер-міністр Фінляндыі А. Кар'ялайнен і С. Раманоўскі пасадзілі дзве бярозкі — сімвал дружбы двух народаў.

У строгай белакаменнай зале Хельсінскага універсітэта сабраліся відныя дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, пісьменнікі, артысты, прадстаўнікі маладзёжных арганізацый. У тры гадзіны дня ў зале паяўляецца прэзідэнт Фінляндыі Урха Кеканен. Аркестр выконвае дзяржаўныя гімны Фінляндыі і Савецкага Саюза.

На стадыёнах і плошчах адбыліся міжнародныя канцэрты, у якіх выступалі артысты 30 краін. У адным з іх, які праходзіў на Соутустадыёне ўдзельнічала каля ста танцораў, спевакоў і музыкантаў Даніі, ГДР, Польшчы, Савецкага Саюза, Швецыі, Фінляндыі. Не пуставалі і залы кансерваторыі. Тут працягваліся конкурсы маладых майстроў класічных спеваў, піяністаў, выканаўцаў на смычковых інструментах. У адным з кінатэатраў спаборнічала звыш 20 аркестраў лёгкай музыкі і джаза. Цікавыя спаборніцтвы праводзіліся ў міжнародным клубе фестывалю. Аркестр іграў невялікія музычныя творы, а ўдзельнікам конкурсу «Што вы ведаеце аб музычным фальклоры розных краін» трэба было адказаць — музыку якой краіны выконвае аркестр.

У студэнцкім клубе адкрыўся семінар на тэму «Прынцыпы дэмакратызацыі асветы». Увечары па вуліцах горада прайшла вясёлая цыркавая кавалькада, а ў Палацы культуры і іншых залах працягваліся балі і карнавалы дружбы.

Назаўтра, 1 ліпеня, дзесяткі тысяч жыхароў Хельсінкі з захапленнем і радасцю, з чыстымі і адкрытымі сэрцамі прымалі яркае карнавальнае шэсце. Міфічныя драконы, загрыміраваныя клоуны, вясёлыя джазы праходзілі па гораду. Працэсія прайшла па многіх вуліцах і закончыла свой шлях у гарадскім парку Лінанмяк. Тут, высока ў гарах, адбыўся вялікі фестывальны карнавал і масавае гулянне.

Правялі свае першыя сустрэчы спартсмены, якія прыехалі на фестываль у Хельсінкі. На Алімпійскім стадыёне сабралася каля 10 тысяч гледачоў. Яны наладзілі авацыю, калі пасля фінальнага забегу на сто метраў Эміль Затапек уручыў першы залаты медаль свята грузінскаму спартсмену Эдуарду Ламтадзе. Дзве папраўкі ў спіс рэкордаў стадыёна ўнеслі савецкія спартсменкі Эльвіра Азоліна і Ірына Прэс. Ігар Тэр-Аванесян устанавіў новы рэкорд Алімпійскага стадыёна. Залаты медаль заваявала яшчэ адна наша спартсменка Галіна Еўшукова.

У які б час вы не выйшлі цяпер на вуліцы Хельсінкі, прыкметы свята юнацтва абавязкова кінуцца ў вочы. Шматмоўнай стала вулічная размова, у горадзе прыбавілася машын, змяніліся іх прывычныя маршруты. Фестываль наклаў адбітак на ўсё жыццё сталіцы Фінляндыі, змяніў яе рытм і ўклад.

Сустрэчы — ледзь не важнейшая частка фестывальнай праграмы. Аб іх значэнні трапна сказаў амерыканец Барб Рос: «Сустрэчы неабходны, як паветра, толькі яны могуць развеяць прадузятыя пераконанні, ад цярпімасці памогуць перайсці да давер'я, павагі і дружбы».

Першая палавіна дня фестывалю — час сур'ёзных калёквіумаў, семінараў, гутарак. Моладзь цікавяць праблемы нацыянальнай незалежнасці і будучае паэзіі, пытанні паляпшэння ўмоў працы і шляхі гарманічнага развіцця навукі і мастацтва, новыя плыні ў тэатры і музыцы і яшчэ многае-многае іншае. Няма раўнадушных на гэтых дыскусіях. Спрачаюцца з захапленнем, часам нястрымна, так, як звычайна спрачаюцца ў юнацтве.

...Далёка за поўнач заціхае горад фестывалю. Раніцою — новыя сустрэчы, новыя спрэчкі. У іх адна мэта — мір...

Над Хельсінкамі весялосць. Фестываль — радаснае свята моладзі ўсяго свету працягваецца.

## Рак пад прыцэлам

### НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

Некалькі разоў у гэты дзень даводзілася заходзіць у кабінет дырэктара рэспубліканскага Інстытута анкалогіі прафесара Мікалая Мікалаевіча Аляксандрава. Прафесар пры ўсім сваім жаданні не мог знайсці час для гутаркі з карэспандэнтам. Ён толькі што вярнуўся з Масквы, з Міжнароднага супрацьракавага кангрэса. Яго кабінет (тут няма перабольшання) нагадваў у гэты дзень штаб галоўнакамандуючага перад наступленнем. Вось людзі ў белых халатах уважліва выслухоўваюць кароткі рапарт-даклад прафесара: гэтыя матэрыялы кангрэса вывучыць, на гэтыя звярнуць асаблівую ўвагу, такія вось метады ўжо можна прымяняць на практыцы... А потым да позняга вечара Мікалай Мікалаевіч па гарачых слядах складаў спісы-заяўкі навейшага медыцынскага абсталявання, якое хоча мець у сябе Беларускі інстытут анкалогіі. Гэта таксама вынік кангрэса. Атамныя ўстаноўкі, эфектыўныя вынікі работы якіх дэманстраваліся на кангрэсе, павінны быць на ўзбраенні медыцынскіх работнікаў рэспублікі.

Нарэшце — інтэрв'ю для «Літаратуры і мастацтва».

**Карэспандэнт.** Скажыце, калі ласка, як была прадстаўлена на кангрэсе наша рэспубліка? З чым прыехалі беларускія медыкі на сусветны форум вучоных?

**Прафесар Аляксандраў.** У складзе беларускай дэлегацыі на кангрэсе было сорак медыцынскіх работнікаў. Гэта ўрачы-анколагі з Мінска, Гродна, Віцебска і іншых гарадоў. Мы прывезлі пяць дакладаў. Адзін з іх падрыхтаваны групай анколагаў нашага інстытута — «Арганізацыя анкалагічнай дапамогі ў Беларусі». Я лічу, што тэма гэтага даклада з'яўляецца праблемай праблем сучаснай анкалогіі. Вопыт, практыка паказваюць, што пры раннім выяўленні практычна ўсе формы рака могуць быць поўнасцю вылечаны, зразумела, пры правільным, кваліфікаваным лячэнні.

Самае важнае для нас у сучасны момант — падрыхтаваць кваліфікаваныя кадры ўрачоў-анколагаў, каб у кожнай бальніцы быў чалавек, які знаёмы з усімі формамі і відамі гэтага цяжкага захворвання. Жыццё падказвае, што неабходна перагледзець методыку выкладання анкалогіі ў медыцынскіх інстытутах. Трэба стварыць спецыяльныя кафедры або курсы анкалогіі ў кожным інстытуце. Дарэчы, сярэдніх медыцынскіх работнікаў — фельчараў, акушорак, медыцынскіх сясцёр таксама варта глыбей знаёміць з асновамі дыягностыкі і прафілактыкай рака.

**Карэспандэнт.** Што, на Ваш погляд, было самым цікавым, самым значным з пункту гледжання навукі на кангрэсе?

**Прафесар Аляксандраў.** Пытанне, на якое можна пакуль што адказаць адным, але на гэты раз самым дакладным словам: усё! Кожны даклад сапраўды, як гаварылі ў нашай прэсе, — цагліна ў адзіным будынку, што ўзводзіцца рукамі вучоных усяго свету, будынку стройнай навуковай атакі супраць страшнага ворага чалавецтва — рака. На мой погляд, самым перспектыўным, як паказаў форум вучоных, з'яўляецца новы, ўдасканалены метад прымянення атамнай энергіі — пучка электронаў. Нават запушчаная форма рака паддаецца гэтаму лячэнню. Пры дапамозе сканцэнтраванага пучка электронаў можна паспяхова лячыць глыбока размешчаныя ў арганізме чалавека пухліны. Электроны практычна не выклікаюць мясцовага пашкоджання скуры і не вядуць за сабой небяспечнага спадарожніка — прамянёвую хваробу. Такімі навейшымі атамна-электроннымі ўстаноўкамі будзе забяспечаны ў хуткім часе і наш новы анкалагічны гарадок, які будуецца пад Мінскам, у Бараўлянах.

**Карэспандэнт.** Асабіста Вы, Мікалай Мікалаевіч, якой тэорыі паходжання рака прытрымліваецеся?

**Прафесар Аляксандраў.** Існуе многа розных форм ракавага захворвання. Кожная форма ўзнікае пад уплывам сваіх прычын — у выніку фізічнага, хімічнага і іншых шкодных уздзеянняў знешняга асяроддзя на арганізм чалавека. Гэтыя ўздзеянні звязаны з кліматычнымі, бытавымі, вытворчымі ўмовамі жыцця людзей. Даследаванні прафесара Л. М. Шабада, першага савецкага вучонага, які атрымаў прэмію Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, переканаўча пацвердзілі гэта.

На кангрэсе было многа дакладаў, прысвечаных віруснай тэорыі паходжання рака. Аднак доследы на жывёлах яшчэ не могуць служыць вычарпальным пацвярджэннем гэтай тэорыі. Пераканаўчых доказаў віруснага паходжання пухлін пакуль што няма. Акрамя таго, за ўсю сваю практыку мне не даводзілася бачыць ніводнага прыкладу, калі б адзін чалавек заразіўся ракам ад другога.

**Карэспандэнт.** Аб якой найбольш значнай сустрэчы з вучонымі іншых краін Вы маглі б расказаць чытачам «Літаратуры і мастацтва»?

**Прафесар Аляксандраў.** Такіх сустрэч было настолькі многа, так што цяжка вылучыць адну, самую значную. У рабоце кангрэса ўдзельнічала 70 краін. Было прадстаўлена каля тысячы навуковых дакладаў. Але сапраўды самымі цікавымі былі сустрэчы і размовы ў кулуарах. Непасрэдна, ажыўлена ішоў абмен вопытам, думкамі і планамі.

Дарэчы, на адной з такіх сустрэч мне давялося шчыра размаўляць з прадстаўнікамі навуковых колаў Ізраіля. І я пацікавіўся, на чым грунтуюцца чуткі, якія ў свой час былі шырока распаўсюджаны, быццам бы ў гэтай краіне знойдзен «новы, радыкальны метад лячэння рака». І цяпер магу афіцыйна запэўніць чытачоў газеты, што навуковыя даследаванні ізраільскіх вучоных ні на адзін крок не выперадзілі здабыткаў вучоных іншых краін, у тым ліку і нашых—савецкіх. Хутчэй за ўсё наадварот.

**Карэспандэнт.** І ўсё ж, ці ёсць сапраўды важкія, навукова абгрунтаваныя падставы для аптымізму? Ці прынёс іх людзям кангрэс?

**Прафесар Аляксандраў.** Безумоўна. Пройдзе час, пакуль усе матэрыялы кангрэса будуць дэталёва вывучаны, і тады мы яшчэ больш пераканаемся ў гэтым. Але і сёння—адзіная наступальная лінія ў паходзе супроць рака: прафілактыка, удасканаленне хірургічных метадаў лячэння, прымяненне крыніц атамнай энергіі і хіміятэрапія—бальшак, на які выйшлі анколагі.

Прыцэл па ворагу з мільёнаў гармат — вось што ўяўляў сабой кангрэс.

## МЕЛОДЫІ РОДНАГА КРАЮ

З усіх канцоў вобласці з'ехаліся ў гэты дзень у Магілёў самадзейныя кампазітары і маладыя паэты — стваральнікі песень і музыкі. Тут адбыўся канцэрт, прысвечаны Дэкадзе самадзейнага мастацтва.

Канцэрт пачаўся выступленнем вакальнага ансамбля Клімавіцкага раённага Дома культуры — аднаго з лепшых пеўчых калектываў Магілёўшчыны. Ён выканаў песню «Маякі» самадзейнага кампазітара Л. Ячнева (словы А. Радзівілава), мясцовыя прыпеўкі і частушкі.

Узнёсла і лірычна прагучалі «Элегія» магілёўскага настаўніка А. Доўгага, «Роднае поле» шклоўскага настаўніка М. Рыўкіна.

Горача прынялі прысутныя і «Бабруйскі вальс», створаны самадзейным кампазітарам М. Мільчыным. Выконваў гэты вальс вакальны ансамбль Бабруйскай швейнай фабрыкі імя Дзяржынскага.

Касцюковіцкія майстры мастацкай самадзейнасці прывезлі ў Магілёў тры лепшыя свае песні: «Камсамольскую дарожную», «Хай льецца весялосць» і «Песню пра Жадунку». Аўтары гэтых песень— малады паэт М. Мацанка і баяніст раённага Дома культуры В. Ражкін.

На вечары выконваліся таксама песні В. Барысенкі, П. Яроменкі, І. Галькоўскага і іншых самадзейных кампазітараў. Усім да спадобы прыйшліся вершы пра цаліну А. Пысіна, лірычныя вершы В. Ракава, В. Лук'янчыка, І. Емяльянава, М. Мацанкі.

У далейшым такія справаздачныя вечары-канцэрты мяркуецца правесці ў Бабруйску, Горках, Шклове, Крычаве.

Творы самадзейных кампазітараў рыхтуюцца да выдання абласным Домам народнай творчасці.

## МАСТАКІ — ПРАЦАЎНІКАМ СЯЛА

На цэнтральнай сядзібе калгаса імя Валадарскага Магілёўскага раёна ў трох брыгадных клубах паявіліся маляўнічыя плакаты, лозунгі, якія расказваюць аб працы, быце, адпачынку хлебаробаў і жывёлаводаў, знатных людзях вёскі. Усё гэта бясплатна зрабілі і перадалі працаўнікам арцелі мастакі горада В. Юркевіч, Э. Карповіч, І. Моніч, І. Булгакоў і фотааматар А. Барчык.

Многае зрабілі мастакі і ў калгасе «Бальшавік» Крычаўскага раёна. Яны напісалі тэматычныя карціны, транспаранты, абсталявалі «Акно сатыры і гумару», фотавітрыну передавікоў, дошку паказчыкаў.

Добры прыклад пераймалі ўсе майстры пэндзаля горада. Яны арганізавалі рад творчых груп. Кожная з іх абавязалася аформіць наглядную агітацыю у 2—3 калгасах, сістэматычна дапамагаць сельскім самадзейным мастакам.

(БЕЛТА).

## НА ГРАМАДСКІХ АСНОВАХ

Адным з лепшых у Беларусі з'яўляецца чырвоны куток станцыі Брэст-Цэнтральная, якім кіруе грамадскі савет на чале з касірам Тамарай Садчук. У склад савета ўваходзяць дзяжурная па станцыі Галіна Сыса, дзяжурная па вакзалу Клара Янушкевіч, вагаўшчык Любоў Грышчук, камерцыйны канторшчык Марыя Кучур і многія іншыя.

Чырвоны куток станцыі размешчаны ў вялікім асобным памяшканні на 200 чалавек. Тут ёсць «Дошка гонару», добра аформленая вітрына «Трыбуна перадавіка і рацыяналізатара». Маляўніча зроблены стэнды «Маральны кодэкс будаўніка камунізма», «Вучыцца, працаваць і жыць па-камуністычнаму». Заўсёды ёсць свежыя газеты і часопісы, працуе бібліятэка-перасоўка ад абласной бібліятэкі.

Часта наладжваюцца ў чырвоным кутку вечары і канцэрты. Асабліва цікава прайшоў вечар, прысвечаны спартсменам станцыі, і вечар «У чалавеку ўсё павінна быць прыгожа». Пачэснымі гасцямі на кожным вечары і канцэрце з'яўляюцца ўдарнікі камуністычнай працы.

На станцыі заўсёды было шмат жадаючых удзельнічаць у мастацкай самадзейнасці, але не было кіраўніка. Энтузіясты савета чырвонага кутка ўзяліся за гэтую справу. Быў арганізаваны моцны і цікавы калектыў, вядомы цяпер усяму гораду. Самадзейныя артысты часта выступаюць з канцэртамі перад пачаткам змен. Такія невялікія, на 20 — 30 хвілін канцэрты вельмі любяць рабочыя. Поспехам карыстаюцца салісты Адам Ваўрынюк, Раіса Кучынская і іншыя. У самадзейнасці каля 70 чалавек.

У праграму канцэрта ўваходзяць урыўкі з п'есы А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце», песні і танцы народаў СССР і краін свету, творы для аркестра народных інструментаў, паэтычныя творы.

Актывісты не толькі выступаюць з канцэртамі, выпускаюць насценныя газеты, яны памагаюць адзін аднаму і ў важных пытаннях жыцця.

Былі такія выпадкі на станцыі Брэст-Цэнтральная. Вагаўшчык Расціслаў Сідарук, малады хлопец, трапіў у дрэнную кампанію і пачаў займацца спекуляцыйнымі справамі. Мінула ўжо нямала часу і зараз камсамольцы могуць упэўнена сказаць, што Расціслаў не будзе больш займацца гэтым.

А вось яшчэ адзін прыклад. Актывісты чырвонага кутка заўважылі, што Люба Супрунюк староніцца людзей, не ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Аказалася — яна баптыстка. Люба цікавілася музыкай, добра іграла на гітары. Прыцягнулі яе да самадзейнасці. Цяпер ужо Люба прымае ўдзел у канцэртах, выязджае на маёўкі, не цураецца людзей.

Дружна працуе калектыў чыгуначнікаў, які змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы. Немалая заслуга ў гэтым належыць актывістам чырвонага кутка, якія таксама змагаюцца за званне лепшага чырвонага кутка.

Ул. СЕЛЯЗНЁЎ.



ЯНЫ ПРАЦУЮЦЬ НА ЧЫГУНЦЫ. Хлопцы і дзяўчаты з гэтай агітбрыгады Лунінецкага клуба чыгуначнікаў добра вядомы жыхарам Брэсцкай вобласці. Колькі канцэртаў далі яны ў гарадах і вёсках, на далёкіх станцыях!

Усюды людзі кажуць ім: «Прыязджайце яшчэ!»

Фота Л. Чурко.

З кінакамерай па рэспубліцы

## «Савецкая Беларусь» № 19

Калі вам здарыцца быць на Аршанскім ільнокамбінаце і вы сустрэнеце там інжынера Сямёнава, ён ахвотна раскажа вам, як працуе савет маладых спецыялістаў.

Звыш двухсот чалавек аб'ядналіся тут, каб свае веды і вопыт накіраваць на павышэнне прадукцыйнасці працы. І вось першы вынік—створана паўаўтаматычная ўстаноўка для ўзважвання прадукцыі непасрэдна на канвееры. Яна прынесла камбінату больш дзевяці тысяч рублёў эканоміі.

Інжынер Сямёнаў — ініцыятар стварэння савета сканструяваў таксама лічыльнік даўжыні стужкі на змешвальным агрэгаце.

Намаганні спецыялістаў, памножаныя на старанную працу рабочых, забяспечваюць на камбінаце паспяховае выкананне плана, рост выпуску прадукцыі.

Аб усім гэтым расказвае кіначасопіс «Савецкая Беларусь» № 19, які выйшаў днямі на экраны рэспублікі.

У кіначасопісе таксама рэпартаж аб сёмай сесіі Вярхоўнага Савета БССР пятага склікання, аб прысваенні Міхасю Ціханавічу Лынькову ганаровага звання народнага пісьменніка Беларусі, аб высокім ураджаі кукурузы і бабовых у калгасе «Чырвоная змена» Любаньскага раёна.

## На полі Барадзінскім

Барадзіно... Вось паўтары сотні гадоў ужо гэтае слова хвалюе людзей. Пачуўшы пра Барадзінскую бітву са школьных гадоў, мы з часам усё глыбей раскрываем для сябе яе славу і вялікае гістарычнае значэнне.

З трапяткім хваляваннем мы ступаем сёння на зямлю, дзе 26 жніўня (7 верасня па новаму стылю) 1812 года палкі фельдмаршала Галянішчава-Кутузава ва ўпартым і крывавым змаганні атрымалі перамогу над напалеонаўскімі войскамі, што не ведалі дагэтуль паражэнняў.

Неўміручы народ, які здзейсніў гэты подзвіг. Гады, стагоддзі не сатруць з памяці нашчадкаў героіку таго далёкага часу, мужнасць і бясстрашнасць тысяч і тысяч адважных сыноў Расіі.

Пра свой план пакарэння Расіі Банапарт гаварыў так: «Калі я займу Кіеў — я вазьму Расію за ногі; калі я авалодаю Пецярбургам — я вазьму Расію за галаву; заняўшы Маскву, я паражу яе ў сэрца».

Пад Барадзіным, што за 125 кіламетраў ад Масквы, французская армія, якая трыумфальным маршам прайшла па Заходняй Еўропе, пацярпела першае буйнае паражэнне, што стала пачаткам вялікай нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў краін, заняволеных напалеонаўскімі захопнікамі.

...У Барадзіне стаяць пагодлівыя летнія дні і ўсе сцяжынкі, палявыя дарожкі, шаша, што вядуць да яго, поўныя машын, пешаходаў. Гэта экскурсанты з далёкіх і блізкіх гарадоў і вёсак нашай Радзімы, турысты, масквічы і госці сталіцы. Звіняць над Барадзінскім полем людскія галасы. Кожны, хто прыходзіць сюды, доўга прастойвае ля славутых рэдутаў і флешаў, ля помнікаў і абеліскаў. Хутка міне 150 год, як прыйшло на гэтую зямлю царства вечнага спакою і ўрачыстай цішыні. А тады, раней «...уся гэтая мясцовасць была пакрыта дымамі стрэлаў, і касыя прамені яркага сонца, што ўзыходзіла ззаду лявей П'ера, кідалі на яе ў чыстым ранішнім паветры святло, што пранізвала залатым і ружовым адценнем, і цёмныя доўгія цені. Дальнія лясы, якія заканчваюць панараму, нібы высечаныя з якогасьці каштоўнага жоўта-зялёнага каменя, відны былі сваёй выгнутай рыскай вяршынь на даляглядзе, і паміж імі за Валуевым праразалася вялікая Смаленская дарога, уся пакрытая войскамі. Бліжэй блішчалі залатыя палі і пералескі. ...Усюды — спераду, справа і злева відаць былі войскі. Усё гэта было ажыўлена, велічна і нечакана». Кожны прыгадвае гэтыя радкі з «Вайны і міру», калі ступае на поле Барадзіна.

Мы ідзём па крутой і пакручастай сцежцы да пагорка. На ім — помнік Міхаілу Іларыёнавічу Кутузаву. Тут вялікі рускі палкаводзец знаходзіўся ў пачатку Барадзінскай бітвы. З гэтага пагорка ён кіраваў гістарычнай бітвай. А цяпер на бледна-ружовым граніце помніка — пазалочаны меч, на бронзавым барэльефе — Кутузаў. «Непрыяцель адбіты на ўсіх напрамках» — гаворыць надпіс на помніку. У гэтых словах — вынік Барадзінскай бітвы, вынік нечуванага змагання дзвюх армій.

На вяршыні абеліска распусціў крылы бронзавы арол. А недзе высока ў небе заліваюцца жаваранкі, і кожны, хто падыходзіць да гэтай магілы рускай славы, кладзе ля яе падножжа сціплыя палявыя кветкі.

З пагорка, дзе пахаваны прах палкаводца, пачынаецца Шавардзінскі рэдут. І цяпер яшчэ відаць тут земляны вал, роў, профіль умацаванняў. За два дні да генеральнай бітвы тут адбыўся жорсткі бой — шэсць тысяч напалеонаўскіх салдат і афіцэраў паклалі галовы ў гэтым баі.

Адзін за адным аглядаем гранітныя абеліскі з назвамі палкоў. На цокалі пастамента помнікаў героям першага і дзевятнаццатага егерскіх палкоў — мармуровая дошка. На ёй золатам словы М. Ю. Лермантава:

И умереть мы обещали,
И клятву верности сдержали
Мы в Бородинский бой.

Далей ідзём на Баграціёнавы флешы. Хто можа застацца абыякавым пры адным толькі ўпамінанні аб гэтых легендарных умацаваннях! Яны знаходзяцца на невялікім узвышшы ля вёскі Сямёнаўскай. У тыя часы адсюль добра відаць была ўся навакольная мясцовасць. Рускія войскі вялі трапны артылерыйскі агонь і па фронту, і па флангу атакуючага непрыяцеля.

Абароне Баграціёнавых флешаў Міхаіл Іларыёнавіч Кутузаў надаваў асаблівае значэнне, бо яны былі перадавымі апорнымі пунктамі ўсіх рускіх пазіцый. Адсюль Баграціён павёў у імклівую контратаку рускія войскі:

...В дыму огонь блестел,
Звучал булат, картечь визжала,
Рука бойцов колоть устала,
И ядрам пролетать мешала
Гора кровавых тел.

Шматгадзінны бой за Баграціёнавы флешы абяскровіў напалеонаўскія войскі. Ворагу не ўдалося зламаць баявы парадак рускіх. План Напалеона—прарваць абарону рускіх — быў сарваны. У гэтым неўміручая заслуга салдат і афіцэраў Баграціёна.

Ад старажылаў гэтых месц і сёння можна пачуць нямала хвалюючых расказаў з гісторыі бітвы за Барадзіно. Расказваюць, напрыклад, як прыехала на поле пасля бітвы жонка генерала Тучкова і ўсю ноч шукала мёртвае цела свайго мужа. Знайшла яна толькі яго руку з пярсцёнкам і на гэтым месцы цяпер стаіць капліца.

Недалёка ад Баграціёнавых флешаў — вышыня. Тут стаяла батарэя Раеўскага. Цяпер тут пахаваны прах Баграціёна. Дакранаючыся рукою да холаду мармуровых пліт, здаецца, адчуваеш дыханне слаўных егераў Баграціёна, храбрых кавалерыстаў Барклая дэ Толі, адчуваеш парахавы пах.

Шмат у нас на зямлі месцаў — сведак баявой славы нашага народа. Але на Барадзінскім полі асабліва яскрава відаць пераемнасць выдатных баявых традыцый нашага народа. Тут стаяць амаль побач два помнікі. На адным высечаны словы: «Доблесным героям Барадзіна 1812 года». На другім чытаем: «Вечная слава героям, што загінулі ў баях на Барадзінскім полі ў 1941—1942 гг. у дні Вялікай Айчыннай вайны».

Як і ў 1812 годзе, у 1941 годзе на гістарычным полі адбылася вялікая бітва. Таксама, як калісьці Напалеон, гітлераўцы шалёна ірваліся да Масквы. Але салдаты і афіцэры 32-й Чырвонасцяжнай стралковай дывізіі пад камандаваннем палкоўніка Віктара Іванавіча Паласухіна стаялі насмерць. І таксама, як іх легендарныя продкі, далі тут адчуць сілу і мужнасць народа, які адстойвае сваю Радзіму ад іншаземных захопнікаў.

...Трыццаць шэсць помнікаў героям Айчыннай вайны 1812 года было адкрыта на Барадзінскім полі. Большасць іх была пастаўлена ў дні стогадовага юбілею Барадзінскай бітвы на сродкі салдат і афіцэраў тых воінскіх часцей, былыя воіны якіх змагаліся пад Барадзіно ў 1812 годзе. У гады мінулай вайны гітлераўцы разбурылі помнікі. Намаганнямі рэстаўратараў, архітэктараў, скульптараў усе яны адноўлены.

У цэнтры Барадзінскага поля стаіць будынак Дзяржаўнага ваенна-гістарычнага музея. У ім сабраны багатыя матэрыялы, дакументы, мемарыяльныя рэчы.

Гістарычнае Барадзінскае поле прыцягвае ўвагу мільёнаў людзей як месца неўміручай воінскай славы і подзвігу нашага народа ў барацьбе з іншаземнымі захопнікамі. Над вялізным полем, акружаным цяпер мірнымі калгаснымі вёскамі, узвышаюцца бронзавыя арлы. Стагоддзі не сатруць у памяці ўдзячных нашчадкаў мужнасць і геройства воінаў, што загінулі ў змаганні за незалежнасць роднай зямлі.

Г. БАКШЭЕВА,
спец. карэспандэнт «ЛІМа».

